# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Аўторак, 4 кастрычніка 1994 года

№ 105 (10805)

Цана 30 руб.



Маладзечанскія навіны

## ГОРАД КЛАПОЦІЦЦА АБ БУДУЧЫМ

Юныя маладзечанцы, якія селі сёлета за школьныя парты, напэўна, і не здагадваюцца, якая вялікая работа папярэднічала пачатку новага навучальнага года. Як паведаміў на пасяджэнні гарадскога прэс-цэнтра загадчык аддзела адукацыі гарвыканкома В.У.Сірота, аддзелачных, сантэхнічных, будаўнічых, электрамантажных работ праведзена на 300 мільёнаў рублёў (у цэнах да дэнамінацыі). Школа № 9 правяла касметычны рамонт наогул без прыцягнення бюджэтных сродкаў.

Горад клапоціцца аб сваім будучым. Гэта не можа не радаваць. Як і той факт, што колькасць яго юных насельнікаў расце і... стварае праблему дэфіцыту вучнёўскіх месц. Вось чаму многія старшакласнікі вымушаны былі сёлета адправіцца ў вячэрнюю школу. Яна, акрамя сярэдняй адукацыі, дае юнакам і дзяўчатам некаторыя рабочыя прафесіі.

## НЕ БЕЗ ДОБРЫХ ЛЮДЗЕЙ

Дзяўчынцы Олі, жыхарцы пасёлка Насілава, толькі восем гадоў. Але бяда ўзрост не выбірае. Яна прыкавала дзіця да інваліднай каляскі. І жорстка пралічылася, думаючы, што тым самым асудзіла дзяўчынку на адзіноту. Аб Олінай бядзе расказала мясцовая газета ў замалёўцы «Жыве ў Насілаве дзяўчынка Оля». А праз некаторы час акцыянернае таварыства «Забудова», гаспадар магазіна «Віленскі шлях», дзе працуе маці дзяўчынкі, дапамагло сям"і набыць бясплатную пуцёўку на лячэнне і аплаціла кошт праезду да санаторыя на Чарнаморскім узбярэжжы.

Оля адпачывала на моры цэлы месяц, загарала, лячылася. Гэта былі незабыўныя дні, падараваныя ёй добрымі людзьмі. Як цудоўна, што яны жывуць сярод нас, не пакідаюць у адзіноце і крыўдзе.

## ЛЯ ГАСЦІНЦА — «МАГАЗІН-ФУ»

З многімі цікавымі творчымі калектывамі сустрэліся ўжо наведвальнікі вядомага ў Маладзечне кафэ «Ля гасцінца». У чарговую музычную сераду зала горача і шчыра апладзіравала клоун-групе «Магазін-Фу». Калектыў створаны сем гадоў назад. Пабываў на гастролях у самых розных мясцінах як блізкага, так і далёкага замежжа. Яго прымалі ў Германіі і Швейцарыі. І не дзіўна, што аматары клоун-групы з Маладзечна аднагалосна прызналі гэты вечар адным з самых прыемных у сваім жыцці.

Дарэчы, Беларускае тэлебачанне адначасова здымала тут сваю чарговую перадачу «І зорка з зоркаю гаворыць». Яна таксама карыстаецца шырокай папулярнасцю ў тэлегледачоў.

## ЧАРГОВЫ КРОК ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Камерны хор «Унтэрмайн»... Гэтая назва мала што гаворыць беларускаму гледачу. А між тым «Унтэрмайн» — даволі папулярны ў Германіі творчы калектыў спевакоў-аматараў. Мастацкі кіраўнік — дырыжор-прафесіянал Готфрыд Гернер. На гастролі ў Маладзечна калектыў быў запрошаны абласным камерным хорам.

На канцэрце ў камернай зале музвучылішча гучалі творы Брамса, Гайдна, Мендэльсона-Бартольдзі і іншых сусветна вядомых аўтараў. Незабыўнае ўражанне ў прысутных выклікала выступленне «Унтэрмайна». Яно стала яшчэ адным крокам да ўзаемаразумення паміж двума народамі, узаемаўзбагачэння дзвюх культур.

*Марыя КУЗАЎКІНА.*

ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

## ЗА ЎБОРКАЙ — ПЕРАВОРВАННЕ

На другой палавіне плошчаў вядуць уборку бульбы члены механізаваных звенняў канчатковай прадукцыі аграфірмы «Крутагор»е" Дзяржынскага раёна. Нягледзячы на летнюю спёку, ураджай «другога хлеба» вырашчаны нядрэнны — больш як па 180 цэнтнераў клубняў з гектара. Гэта лепшы паказчык у раёне. Тут не спасылаюцца на эканамічныя цяжкасці, дэфіцыт запчастак і паліва, а робяць усё магчымае, каб у лепшыя тэрміны ўбраць вырашчаны ўраджай, а затым пераараць бульбянішчы. Гаспадарка ў першую чаргу закладвае на захоўванне насенныя клубні. Пашкоджаныя, дробныя ідуць на корм жывёле. Належныя тэмпы ўборкі забяспечваюцца высокаэфектыўным выкарыстаннем тэхнікі, добрай арганізацыяй працы, умелым прымяненнем матэрыяльных стымулаў.

*Анатоль ШАРАЕЎ.*

## СЕРЫЯ "ВЫНІКІ СТАГОДДЗЯ"

Першы том кніжнай серыі "Вынікі стагоддзя" жадаючыя могуць набыць ужо цяпер. Гэта "Казкі стагоддзя для самых маленькіх". Наступным будзе том "Строфы стагоддзя", які склаў Яўген Еўтушэнка. Цалкам жа серыя ўключыць 21 том: "Фільмы стагоддзя" (аглядальнік Сяргей Салаўёў)), "Моды стагоддзя" (Вячаслаў Зайцаў), "Апавяданні стагоддзя" (Уладзімір Вайновіч), "Міфы стагоддзя" (Андрэй Бітаў) і іншыя, не менш цікавыя.

Праўда, набыць гэтую незвычайную энцыклапедыю зможа не кожны: цэны даволі высокія. Але, згадзіцеся, за такія выданні не шкада аддаць грошы.

Гэтую падпісную серыю пачало выпускаць у 1994 годзе выдавецтва "Паліфакт". У Мінску адкрыта некалькі пунктаў распаўсюджвання кніг. Адзін з іх — у парку імя Горкага ў памяшканні тэатра-лабараторыі "Камерная сцэна" (памяшканне дырэкцыі парку). Тэлефон: 36-42-52.

*Марына ЛАЗУКА.*

## ПАХМЯЛЯЕМСЯ?

Рэзка, літаральна за дзень, змянілася абстаноўка каля фірменнага магазіна "Крышталь", дзе па дзяржаўнай цане і без талонаў прадаюцца спіртныя напіткі. Пасля апошняга падаражання гарэлкі тут умомант знікла вялікая бурлівая чарга. Стала ціха і нязвыкла культурна.

— Калі мы раней за суткі прадавалі ў сярэднім 140 скрынак гарэлкі, то цяпер — не больш як 20—25, — гаворыць дырэктар магазіна А.П.Чэркас. — Ствараецца ўражанне, быццам мужчыны ўжо напіліся, а цяпер пахмяляюцца.

Вядома, выкінуць пяць тысяч "зайчыкаў", ці крышку менш двух долараў, за бутэльку сёння можа не кожны. І ўсё ж гэта не адзіная прычына спакою ў "Крышталі". У Салігорску — паўтары сотні недзяржаўных магазінаў, ларкоў. Частка іх гандлюе і спіртным. Нярэдка на тысячу рублёў танней, чым у тым жа "Крышталі". Зразумела, куды панеслі аматары гарэлкі, віна свае грошы.

Гэта яшчэ адзін доказ той ісціны, што калі палку празмерна гнуць, то яе можна ўвогуле зламаць. Кіраўнікі рэспублікі заяўлялі, што грошы, атрыманыя ад падаражання спіртнога, пойдуць на зарплату ўрачам, настаўнікам. А яны пацяклі ў кішэні камерсантаў. Прыхопліваючы нават тыя "спіртныя" даходы, што ішлі ў бюджэт раней...

*/Наш кар./.*

## ГЛЯДЖУ АДНЫ ДЭТЭКТЫВЫ

Толькі і чуеш сёння: нешта з намі адбываецца. І сапраўды — адбываецца. Я раней, напрыклад, вельмі захаплялася класікай, любіла чытаць Талстога, Чэхава. Цяпер успрымаю больш-менш нармальна адны дэтэктывы.

Тое ж і з кіно, тэлебачаннем. Памятаю, як ірваліся мы калісьці на фільмы Таркоўскага. А цяпер як убачу якую-небудзь кінастужку мінулых гадоў, класіку — адразу ж слёзы сыплюцца з вачэй, пачынае балець сэрца.

Што гэта? Збядненне душы? Настальгія па мінуламу? Рэакцыя на "азвярэнне" грамадства?

Не ведаю. Але спачуваю маладым. Калі мне, чалавеку з багатым жыццёвым вопытам,так цяжка, як жа даводзіцца ім?

*Галіна ПРАКОП"ЕВА.*
*г.Мінск.*



У парку.



Грыбны сезон.

*Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА, Аляксандра РУЖЭЧКІ.*

■ З першых вуснаў

# БЛІЖЭЙ ДА КЛІЕНТА

## ІМКНЕЦЦА БЫЦЬ АБЛАГРАПРАМБАНК

**У апошні час, як грыбы пасля цёплага дажджу, растуць камерцыйныя банкі. Пачалася барацьба за кліента. Кожны пераконвае, што толькі ў яго найбольш выгадныя ўмовы для захоўвання капіталу. Ледзь ці не тысячныя працэнты гадавых гатовы выплаціць за пакладзеныя на рахунак грошы.**

— Тут цяжка ўстрымацца, каб не клюнуць на гэта. Ці не так, Анатоль Аляксандравіч? — пытаюся ў старшыні праўлення Мінскага банка "Белаграпрамбанка". — Скажам, адкрываеш дэпазіт тысяч на сто. І, глядзіш, неўзабаве набяжыць мільён. Ніякіх клопатаў. Стрыжы толькі купоны ды жыві прыпяваючы.

У адказ Саматохін толькі ўсміхнуўся. Маўляў, што возьмеш з чалавека, далёкага ад банкаўскай дзейнасці. Наслухаўся рэкламы і вярзе нейкую лухту. І няўцям яму, што паважаючы сябе сур"ёзны банк не дае легкадумныя гарантыі. Выплачваць такія працэнты — сабе на страты: тут жа "прагарыш". Колькі ўжо было выпадкаў, калі камерцыйныя структуры абяцалі залатыя горы, а ў канчатковым выніку аказваліся банкрутамі.

— Усё добра ў меру, — падвёў рысу пад маімі разважаннямі Анатоль Аляксандравіч. — Кладуць грошы ў банк не для таго, каб разбагацець, а на захоўванне — "лішнюю" суму з мэтай накаплення: а раптам спатрэбіцца што-небудзь набыць ці паявяцца непрадугледжаныя расходы. Асноўная задача банкаў — фінансавая дапамога вытворчым калектывам і фізічным асобам у ажыццяўленні тых ці іншых сацыяльна-эканамічных праграм. Вось тут і разгортваецца канкурэнцыя — хто і якія паслугі можа аказаць кліенту, на якіх умовах.

Сфера дзейнасці банка Саматохіна — аграпрамысловы комплекс. Наколькі мне вядома, многія гады супрацоўнічаюць з ім гаспадаркі вобласці, перапрацоўчыя прадпрыемствы, іншыя сельскагаспадарчыя арганізацыі. Яны не збіраюцца мяняць "свайго" крэдытора, паколькі аграпрамбанк зарэкамендаваў сябе надзейным партнёрам АПК. Ён сам ідзе да кліента, адкрываючы свае філіялы і аддзяленні не толькі ў раённых цэнтрах, а і ў сельскіх населеных пунктах.

Адным словам, імкнецца як мага паўней задаволіць заяўкі сваіх укладчыкаў. Для іх пашыраецца кола паслуг.

У свой час манапалістам на ўсе валютныя аперацыі выступаў Знешэканомбанк. З пераходам на рынычныя ўмовы такое права атрымалі і камерцыйныя банкі.

— А зараз выдалі і нам ліцэнзію на гэта, — расказвае начальнік аддзела аблаграпрамбанка Т.У.Астрэйка. — Мы можам цяпер адкрываць валютныя рахункі для фізічных і юрыдычных асоб, ажыццяўляць валютныя аперацыі з банкамі Амерыкі, Італіі, Аўстрыі, Канады, Германіі, Ірландыі, Польшчы, Швейцарыі. Выконваем і разлікі, звязаныя з экспартна-імпартнымі аперацыямі, у форме дакументарнага акрэдытыва, інкаса /атрыманне па даручэнню кліента грошай па вэксалю ці іншаму дакументу/ ці банкаўскаму пераводу. Па заданню кліента купляем для яго валюту ці прадаём яе па курсу, які склаўся на той момант.

— Вы сказалі, Таццяна Уладзіміраўна, што любы чалавек, які мае валюту, можа пакласці яе ў ваш банк. Тады колькі працэнтаў гадавых ён атрымае?

— У перыядычным друку рэгулярна публікуюцца памеры працэнтных ставак камерцыйных банкаў па валютных дэпазітных укладах для фізічных і юрыдычных асоб. Яны залежаць ад сумы і тэрміну, на які пакладзена валюта. У нас стаўка на працэнт-другі меншая. Затое гэта кампенсуецца мінімальным размерам платы за адкрыццё валютнага рахунку. У тых раёнах, дзе найбольш актыўна працуюць з валютай іншыя камерцыйныя банкі, нашы аддзяленні маюць права самастойна вызначаць размер працэнтнай стаўкі. Так сказаць, зыходзячы з мясцовых умоў.

Валютнае абслугоўванне кліентуры актывізуецца, павышаецца яго выніковасць. Нядрэнных паказчыкаў дабіліся ў Капылі, Нясвіжы, Валожыне, Барысаве. А кіраўнік Салігорскага аддзялення Ева Васільеўна Лутовіч прэміравалася месячным акладам.

Расшырэнне аб"ёмаў валютных аперацый з"яўляецца адным з крытэрыяў ацэнкі фінансавай дзейнасці аддзяленняў аблаграпрамбанка, які ўплывае на размер месячнай прэміі. А практыка сведчыць: матэрыяльная зацікаўленасць — добры стымулятар павышэння актыўнасці выканаўцаў.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

# Цану дыктуюць выдаткі

## Вяскоўцы не жадаюць і на гэты раз заставацца ў пройгрышы

На палях калгасаў і саўгасаў заканчваецца ўборка бульбы. А для хлебаробаў адпачынку так і не відаць: гаспадарскіх рук чакаюць плантацыі цукровых буракоў.

Калі пад бульбай многія гаспадаркі сёлета скарацілі плошчы (звузіўся рынак збыту клубняў), то буракі гэты лёс не напаткаў: цукар патрэбны ўсім. Для гэтай культуры знайшлі месца на сваіх палетках нават тыя калгасы і саўгасы, якія раней ёю зусім не займаліся.

Але па якой цане прадаваць салодкія карані цукрова-рафінадным заводам? Пытанне для ўсіх буракасеючых гаспадарак вобласці зусім не рытарычнае. Эканамісты многіх калгасаў падлічылі: сёлетнія выдаткі на вырошчванне буракоў складаюць ад 120 да 170 і нават больш рублёў на кілаграм прадукцыі. А заводы абяцаюць плаціць за той жа кілаграм сыравіны ўсяго 100 рублёў. Значыць, для калгасу рыхтуецца чарговая «эканамічная яма».

Але ж наўмысна туды правальвацца ніхто не жадае. Таму ў мінулую пятніцу і сабраліся ў Мінску члены прэзідыумаў абласной арганізацыі Саюза аграрнікаў і абласнога Савета калгасаў, каб дамовіцца, якую цану патрабаваць за буракі сёлетняга ўраджаю.

З тым, што цана ў 100 рублёў за кілаграм каранёў — непрыкрытае рабаўніцтва гаспадарак, пагадзіліся ўсе. А вось наконт таго, якая цана можа быць прымальная і для гаспадарак, і для дзяржавы, выказваліся розныя меркаванні. Спярша прапаноўвалася спыніцца на 150 рублях, бо, як заяўляюць спецыялісты, пры кошце буракоў у 100 рублёў кошт цукру дасягне 2.000 рублёў за кілаграм.

А калі цана кілаграма буракоў узнімецца да 120 рублёў, то пакупнікам салодкай прадукцыі давядзецца выкладваць 2,7 — 3 тысячы рублёў за кілаграм. Хіба ж можна ісці на такі крок?

Аднак тут жа было пастаўлена контрпытанне: а душыць калгасніка цаной, якая не пакрывае яго працу, можна?.. І большасць членаў прэзідыумаў не пагадзіліся з такім меркаваннем. Яны заявілі: «Калі мы нават скормім цукровыя буракі жывёле, то і тады акажамся ў выйгрышы: будзе мяса, і на яго рынак знойдзецца».

Сышліся на наступным: каб неяк пакрыць выдаткі на вытворчасць буракоў, цану трэба ўстанавіць у 170 рублёў за кілаграм.

А каб размова не засталася толькі гутаркай у чатырох сценах, прынята заява, якая адрасавана рэспубліканскаму савету Саюза аграрнікаў і Савету калгасаў рэспублікі. У гэтым аднагалосна прынятым дакуменце члены прэзідыумаў абгрунтоўваюць, чаму яны прыйшлі менавіта да такой высновы — прасіць цану ў 170 рублёў за кілаграм салодкіх каранёў.

У заключэнне старшыня савета абласной арганізацыі Саюза аграрнікаў і абласнога Савета калгасаў А.У.Юнцэвіч праінфармаваў членаў прэзідыумаў аб тым, што 5 кастрычніка адбудзецца пасяджэнне рэспубліканскага савета Саюза аграрнікаў і Савета калгасаў. Мяркуецца, што там будзе ўзнята пытанне аб аб'яднанні гэтых дзвюх арганізацый у адну.

*Іван АБАБУРКА.*

■ Паспрабуем не хварэць

# ЯШЧЭ АДНА «ХАЛЕРА» НА НАШУ ГАЛАВУ?..

**Не-не, паважаныя сугр507амадзяне, зусім не ў выглядзе чарговага павышэння цэн. На гэты раз "халера" ў выглядзе... халеры. Здавалася б, даўно і назаўсёды пахаваная, яна пагрозліваківае нам пальцам з тэрыторый, не надта аддаленых ад нашай.**

**Не-не... Хапацца за сэрца ці ад спалоху крыкам крычаць падстаў няма. Пакуль. А вось наконт насцярожыцца... Насцярожыцца не перашкодзіць.**

**Вось як ацэньвае сітуацыю галоўны дзяржаўны санітарны ўрач вобласці Б.С.КАЛАСОЎСКІ:**

— Пачынаючы са жніўня халера рэзка пайшла ў "наступленне" на краіны Садружнасці. Асабліва гэта датычыць такіх рэгіёнаў, як Дагестан і Крым. Ва ўсякім разе, ужо напрыканцы лета ў Дагестане было зарэгістравана больш тысячы хворых і вібрыяносьбітаў. Васемнаццаць з іх памерлі. Што датычыць Украіны, то яе тэрыторыі "ліхаманіць" не менш. На 22 верасня ў Крыме зарэгістраваны 82 хворыя на халеру, з якіх 7 памерлі. У Херсонскай вобласці 8 захварэўшых, Нікалаеўскай — 131 /адзін ужо памёр/, Чарнавіцкай і Запарожскай — па аднаму, прычым са смяротным зыходам, Жытомірскай і Кіравааградскай — таксама па аднаму хвораму. Акрамя таго, выпадкі халеры зарэгістраваны ў Казахстане і Кыргызстане, Малдове, Маскоўскай і Варонежскай абласцях, а цяпер і ў Мінску.

Галоўнымі "носьбітамі" халеры з"яўляюцца Турцыя /куды апошнім часам часта ваяжыруюць нашы грамадзяне/, Пакістан, Індыя і Афганістан. Так, 9 верасня быў зняты з поезда жыхар Магілёва, які захварэў на халеру. Прычым у вельмі цяжкім стане. Ён вяртаўся з турыстычнай паездкі ў Турцыю. Сярод кантактных асоб па групе і па вагону выяўлены 4 вібрыяносьбіты, у тым ліку і праваднік вагона.

***— Выходзіць, што камерцыйныя і дзелавыя сувязі з пералічанымі рэгіёнамі — патэнцыяльная пагроза завозу халеры і ў нашу вобласць?***

— Безумоўна. Каб пазбегнуць гэтага, абласны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі сумесна з іншымі ведамствамі і арганізацыямі вобласці распрацаваў комплексны план па прафілактыцы халеры. Ён зацверджаны аблвыканкомам і даведзены да выканкомаў раённых і гарадскіх. Санітарна-эпідэміялагічнай службай устаноўлены строгі кантроль за выкананнем. Прыведзены ў гатоўнасць медустановы, зарыентаваны іх супрацоўнікі.

***— Але адных толькі медыцынскіх мер, відавочна, недастаткова для таго, каб папярэдзіць эпідэмію.***

— Менавіта так. Вось таму я звяртаюся да ўсіх ведамстваў і камерцыйных фірм, якія арганізуюць турпаездкі за мяжу — блізкую ці далёкую. Пракансультуйцеся са спецыялістамі санэпідслужбы ці мясцовай лячэбнай установы. Яны раскажуць вам пра эпідабстаноўку па маршруту руху вашых турыстаў, у месцах іх асноўнага пражывання, паведамяць аб мерах асабістай прафілактыкі. Падрабязны інструктаж патрэбен для кіраўнікоў груп і суправаджаючых асоб. Яны павінны ведаць, што ў паездцы неабходна своечасова інфармаваць медслужбы аб наяўнасці сярод турыстаў хворых ці падазроных на захворванне вострымі кішэчнымі інфекцыямі.

З гэтай мэтай мы даслалі папераджальныя дакументы абласным прафсаюзам, упраўленню культуры, транспартнікам і іншым адпаведным службам. Не забыліся пра грамадскае харчаванне, гандаль, камунальнікаў. Справа ў тым, што перадача халернага вібрыёна ад хворага і носьбіта адбываецца ў знешнім асяроддзі: у першую чаргу праз заражаную ваду ці прадукты. У гэтым сэнсе вялікае значэнне набывае ўзровень камунальнага добраўпарадкавання населеных пунктаў, строгае захаванне правіл апрацоўкі прадуктаў, сыравіны, агародніны ў сталовай ці магазіне. І не толькі. Не трэба забывацца пра асабістую гігіену: мыццё рук перад прыгатаваннем ежы і перад ядой абавязковае!

***— Багуслаў Станіслававіч, цяпер заканчваецца сезон масавых водпускаў. Многія вяртаюцца з "цёплых краёў".***

— Калі хтосьці адчувае страўнікавае ці кішэчнае расстройства, раім праверыцца ў лячэбнай установе. Асабліва гэта датычыць тых, чыя праца мае дачыненне да прадуктаў харчавання: прадаўцы, повары, работнікі водных збудаванняў і г.д. Яны не павінны дапускацца да работы без лабараторнага даследавання на наяўнасць вібрыёна.

***— Як праяўляецца халера? Якія першыя прыкметы захворвання?***

— Знянацку пачынаецца рвота ці моцны панос. Арганізм хутка абязводжваецца, падае тэмпература, і без своечасовай медыцынскай дапамогі хворы можа загінуць на працягу першых сутак.

Такім чынам, супрацьэпідэмічныя меры, своечасовая меддапамога плюс дэзінфекцыя — вось тое, што не дасць халеры нас "праглынуць"...

*Гутарыла Інеса ПЕТРУСЕВІЧ.*



### НАДВОР'Е

*Сёння ўдзень па вобласці чакаецца воблачнае надвор'е, часам дождж. Тэмпература паветра — 10 — 15, у Мінску — 11 — 13 градусаў цяпла, дождж.*

■ Канфліктная сітуацыя

# Учарашні снег

## На Слуцкім заводзе "Модуль" палічылі, што ён даўно "растаў", а вось у аддзеле цэн аблвыканкома з гэтым не згадзіліся

**Менавіта з ім звязана наша гісторыя. А "заварыла" усю кашу кантралёр-рэвізор КРУ Міністэрства фінансаў па Слуцку А.С.Пятрова. На мясцовым заводзе "Модуль" яна выявіла завышэнне тарыфаў на цяпло, рэалізаванае ў снежні мінулага года гарадскому аб'яднанню жыллёва-камунальнай гаспадаркі, сярэдняй школе №11, ПТВ-209, хлебазаводу і іншым пабочным арганізацыям. З іх перабралі 8.040 тысяч рублёў.**

Крыху пазней на "Модулі" пабывала вядучы эканаміст аддзела цэн аблвыканкома Л.У.Шырокіх. У яе гэтая лічба "падрасла" да 39 мільёнаў (у старым вылічэнні).

З падобнымі вывадамі не згадзіўся дырэктар прадпрыемства П.А.Кунцэвіч. У сваёй скарзе-абвяржэнні Пётр Аляксеевіч сцвярджаў, што з іх боку ніякага завышэння тарыфаў не было. Сведчанне таму — рэнтабельнасць вытворчасці цеплаэнергіі: менш як 25 працэнтаў. Да таго ж, згодна з Законам аб дзяржпрадпрыемстве, кожны вытворца мае права самастойна вызначаць цану на сваю прадукцыю, у тым ліку і на цеплаэнергію. Тарыф на яе ўзгоднены са спажыўцамі і вызначаецца зыходзячы з фактычных затрат за папярэдні месяц з улікам мяркуемага ўзроўню інфляцыі на бягучы.

Правяраючыя не прынялі да ўвагі і тое, што ў лістападзе страты ад кацельні склалі 59,4 мільёна рублёў. І калі б на заводзе ў снежні не павысілі тарыфы, то не выканалі б абавязацельстваў перад замежнымі фірмамі, паколькі ўсе сродкі выкарыстоўваліся ў асноўным на пакупку паліва, а для асноўнай вытворчасці набывалася мінімальная колькасць матэрыялаў.

У сувязі са скаргай "на няправільныя дзеянні Шырокіх", калегія аддзела цэн аблвыканкома вырашыла: загадчыку сектара М.І.Матусу выехаць на завод для ўдакладнення выкладзеных Кунцэвічам фактаў.

Аднак паездка яго ў Слуцк аказалася безвыніковай. Не атрымаў ён дакументаў, неабходных для аналізу затрат на вытворчасць цеплаэнергіі. Так з пустымі рукамі і вярнуўся. І толькі ў пары з намеснікам начальніка аддзела цэн Я.Р.Яфімавай змаглі адшукаць у гарадскім аб'яднанні жыллёва-камунальнай гаспадаркі ўзгоднены тарыф на адпускаемую заводам цеплаэнергію.

Як расказвалі мне правяраючыя, прыціснуты фактамі, дырэктар дае каманду пералічыць у дзяржбюджэт тыя ж 39 мільёнаў рублёў.

Тут бы і справе канец. Звычайная гаспадарчая спрэчка. Адна з многіх, што ўзнікаюць у наш нестабільны час. Але яна ўсё яшчэ працягваецца. Яе рухаючай сілай выступае немалаважны для кожнага чалавека фактар — асабісты інтарэс. Дырэктар "Модуля" П.А.Кунцэвіч быў аштрафаваны па максімуму — павінен выплаціць трынаццаць мінімальных зарплат (на той час — 780 тысяч рублёў), а эканаміст прадпрыемства А.А.Філіпавец — тры (180 тысяч).

У народны суд Слуцкага раёна і горада Слуцка з аддзела цэн аблвыканкома адпраўлена пастанова аб "спагнанні штрафу з вінаватых службовых асоб". А адтуль неабходныя паперы — галоўнаму бухгалтару завода вымяральнай апаратуры "Модуль" для безумоўнага выканання.

За што ж такая кара напаткала Кунцэвіча і Філіпавец?

Сацыяльна-эканамічныя перамены ў грамадстве ўнеслі істотныя змены ў работу народнагаспадарчага комплексу. Строгае цэнтралізаванае кіраўніцтва, якое рэгламентавала літаральна кожны крок вытворцаў, адышло ў нябыт. Цяпер у кіраўнікоў развязаны рукі. На першы план выйшлі самастойнасць у вырашэнні вытворчых пытанняў, дзелавітасць, ініцыятыўнасць і разваротлівасць, без чаго немагчыма выжыць у рыначных умовах, якія мы пачынаем асвойваць. І ўсё ж такі поўная свабода ў гаспадарчай дзейнасці яшчэ не азначае і поўную свабоду ад кантролю.

Мы часта любім спасылацца на замежны вопыт, які служыць для нас эталонам эканамічных адносін. І прапускаем міма вушэй тое, што на Захадзе прадпрымальнікі імкнуцца не ўступаць у канфлікт з законам. Няцяжка ўявіць рэакцыю тутэйшых улад, калі б работніку кантралюючага органа не паказалі на якім-небудзь прадпрыемстве неабходныя дакументы. А на "Модулі" нешта падобнае адбылося.

Пры праверцы Шырокіх "не прадставілі дакументы на паступленне мазуту і па расходаванню крэдыту, а таксама каштарысаў накладных расходаў і г.д. Не былі дадзены матэрыялы аб рабоце кацельні за студзень і люты, не атрыманы пісьмовыя тлумачэнні наконт парушэння дысцыпліны цэн".

Людміла Уладзіміраўна вымушана была скласці пратакол аб адміністрацыйнай адказнасці дырэктара і эканаміста. З ім пазнаёміла кіраўніка завода, які адмовіўся падпісаць яго і прыняць.

У сваёй службовай запісцы і М.І.Матус канстатуе: прааналізаваць колькасць электраэнергіі і іншых матэрыялаў, выдаткаваных на вытворчасць адной гігакалорыі цяпла за студзень-снежань 1993 года, не змог з-за непрадастаўлення дакументаў.

У такіх выпадках аддзелы цэн выканкомаў атрымалі права штрафаваць службовых асоб. Вось адкуль і паявіліся названыя вышэй сумы штрафаў.

Цяпер пачаўся новы віток гэтай спрэчкі. Кунцэвіч зноў даслаў пісьмо ў аддзел цэн аблвыканкома. Сутнасць яго заключаецца ў тым, што ён паспяшаўся пералічыць 39,6 мільёна рублёў. Іх трэба вярнуць назад заводу і адклікаць рашэнне аб спагнанні з яго і эканаміста штрафаў. Калегія свайго рашэння не адмяніла. А матэрыялы праверак перадала наверх — у Дэпартамент цэн. Няхай ён разгледзіць іх і дасць сваю ацэнку.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

■ Ураджай-94

# ВЫРАСЛА НА СЛАВУ

**Хоць спрадвеку лічба 13 лічыцца нешчаслівай, але на гэта не зважаюць у саўгасе "Заслаўскі" Мінскага раёна. Менавіта ў гэты дзень — 13 верасня — стартавала ўборка бульбы. І культура парадавала кіраўнікоў, спецыялістаў гаспадаркі. На ўчастку каля вёскі Кіршы сорт "беларускі-3", як мяркуюць, пацягне на 170 цэнтнераў з гектара.**

**— А "сантэ" і па 200 дасць, — спадзяецца галоўны аграном Мікалай Іванавіч Багданчык. — Не хавае аптымізму і дырэктар Анатоль Міхайлавіч Зязетка. Гаспадарскім вокам ён аглядвае барозны, а Мікалай Іванавіч напамінае навучэнцам 148-га вучылішча, што і малую бульбачку на полі пакідаць не след, на корм жывёле пойдзе.**

**Да ўскрайку поля засталося метраў пяць, як з-за дота на пагорку высыпала чародка хлопцаў.**

**— Гэта што, "сачкі"? — вырвалася ў мяне.**

**— Наадварот, перадавікі, — чую ў адказ. — Раней за іншых заслужылі права на адпачынак.**

**— Хлопцы непаўналетнія, працуюць з 9 да 16 гадзін, — тлумачыць дырэктар. — Купілі ім праязныя, ездзяць штодзень. А тут кормім абедам. Зручна і нам, і ім.**

**Трэба дадаць, што не ўсе памочнікі выбіраюць бульбу. Частка задзейнічана ў майстэрні, дапамагае саўгасным спецыялістам. Як-ніяк, будучыя аўтаслесары.**

*Рэгіна НОВІК.*

**На здымках: задаволены ўраджаем "другога хлеба" дырэктар А.М.Зязетка; вядро за некалькі хвілін; з такой бульбай няма калі адпачываць.**

*Фота Аляксандра РУЖЭЧКІ.*

АМАЛЬ пяць гадзін у Махнавіцкім сельскім клубе Салігорскага раёна працягвалася свята «Тата, мама і я — дружная сям»я". Душой і арганізатарам яго была загадчыца мясцовай бібліятэкі В.Карака. Шмат гадоў ведаю гэтую ініцыятыўную жанчыну. Але аб ёй крыху пазней.

У зале клуба ўсё па-святочнаму. На сталах — букеты з лясных кветак, пячэнне, абаранкі, напіткі.

Настаўніца Махнавіцкай школы Любоў Арсенцьеўна Гайдукова вядзе шчыры дыялог з прысутнымі аб адносінах паміж мужам і жонкай, паміж бацькамі і дзецьмі. Дарэчы, гэта праходзіла ў жартоўна-дасціпнай форме.

Затым адбыўся канцэрт, у якім высокае майстэрства паказалі юныя чытальнікі Сяргей Кучынскі, Юля Гайдукова, Люда Дзялендзік. Прынеслі прыемнае задавальненне і маленькія спевакі. А лялечны дзіцячы тэатр "Пралеска", які створаны пры бібліятэцы, паказаў спектакль па матывах беларускай народнай казкі "Лёгкі хлеб".

■ Энтузіясты

# АДОРАНАСЦЬ

— На свяце ніхто не сумаваў. Асабліва ўсе ажывіліся, калі пачаўся конкурс на самую вясёлую, спрытную і смелую сям"ю. Першай выйшла на сярэдзіну залы сям"я Кучынскіх. Бацька, Анатоль Анатольевіч, — механік калгаса, маці, Надзея Васільеўна, — загадчыца школьнай сталовай, дачка Люда — вучаніца другога класа, сын Дзіма — першакласнік, — зазначае Валянціна.

А потым у спаборніцтва ўключаюцца Віктар Леанідавіч Колесаў, вадзіцель, яго жонка, педагог Валянціна Аляксандраўна, дзеці: Павел — вучань чацвёртага класа і Ірынка, якая сёлета толькі пайшла ў школу. Пераможцай выйшла сям"я Кучынскіх.

Такія вечары ў Махнавічах праводзяцца часта. Гэтай вёсцы пашанцавала на творчых культработнікаў. Валянціна Міхайлаўна працуе тут больш за 20 гадоў. Закончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум, а потым — завочны факультэт Беларускага універсітэта культуры. Яна стала пераможцай раённага конкурсу бібліятэкараў. А год таму назад увайшла ў пяцёрку лепшых прапагандыстаў кнігі вобласці. Дарэчы, у гэтай пяцёрцы яна была адзінай прадстаўніцай ад сельскіх культасветустаноў. На ўсе пытанні строгага журы дала глыбокія і аргументаваныя адказы. Не будзе перабольшаннем, калі скажу, што гэта чалавек усебаковых ведаў. Яна надзелена артыстычнымі здольнасцямі. Аб чым сведчыць такі факт: на раённым аглядзе Валянціна Міхайлаўна цудоўна выканала ролю беларускай сялянкі Лявоніхі. Яна і сцэнарыст неблагі. Праграмы вечароў распрацоўвае сама, арыентуе іх на канкрэтных удзельнікаў. Таму яны і такія цікавыя, што, як ужо адзначалася, доўжацца пяць гадзін, і ніхто на гадзіннік не паглядае ў чаканні канца. А якой радасцю свецяцца вочы юных чытачоў, калі Валянціна Міхайлаўна знаёміць іх са зместам новых кніг! Ствараецца ўражанне, што гэтых дзетак на нейкі час загіпнатызавалі. І ў гэтым няма нічога дзіўнага: яна валодае дарам выкарыстаць слова так, каб яно закранала самыя тонкія струны душы чалавечай, здольнае суцешыць гора, выклікаць весялосць, натхніць на подзвіг, спыніць злы намер. Адным словам, яе вусныя агляды кніг нагадваюць прыцягальныя артыкулы таленавітых літаратуразнаўцаў. А бібліятэкар яна, якога, як кажуць, пашукаць трэба. Шмат чытае спецыяльнай літаратуры. Кожнае зярнятка карыснага вопыту ўмела пераносіць на сваю творчую дзялянку.

Салігорскі раён адзін з першых у нашай рэспубліцы аб"яднаў сельскія бібліятэкі са школьнымі.

— Вельмі своечасова адбылося "сватаўство". Адзін фонд, адзіная праграма па кіраўніцтву дзіцячым чытаннем, — гаворыць Валянціна Міхайлаўна.

Аб"яднанне высвеціла і шмат праблем, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння. Паводле прызнання загадчыцы бібліятэкі, у дзяцей і падлеткаў знікае цікавасць да мастацкай літаратуры. Яны слаба аналізуюць прачытанае: адсюль і няўменне разбірацца ў жыццёвых сітуацыях, адшукваць у іх адзіна правільнае рашэнне. Крыўдна, што сённяшнія юныя чытачы рэдка заглядваюць на паліцы, дзе іх чакаюць творы беларускіх літаратараў. А ў выніку яны маюць цьмянае ўяўленне аб кнігах пісьменнікаў Беларусі, з цяжкасцю прыгадваюць іх змест. У нейкай ступені вінаватыя ў гэтым бібліятэкі: не прывілі іх работнікі любові да кнігі, не актывізавалі работу па прапагандзе ўсяго таго, што паступае ў бібліятэкі. Але ж і пісьменнікі чамусьці адвярнуліся ад сваіх чытачоў. Раней праводзіліся дэкады літаратуры, адпаведныя прадстаўнікі наведвалі гарады і вёскі, дзе сустракаліся з людзьмі розных узростаў. Сустрэцца з аўтарам кнігі, пачуць яго голас, паслухаць успаміны, даведацца аб планах — незабыўная мара вясковых чытачоў. Шкада, што самі літаратары рэдка наведваюць калгасы і саўгасы. Нават пісьменнікі-землякі не лічаць патрэбным заглянуць у школу, дзе самі вучыліся, адкуль крочылі ў вялікую літаратуру. Рыначны вэрхал замінае камплектаванню бібліятэк мастацкай літаратурай. Цэны на некаторыя кнігі сіганулі так высока, што яны цяпер не па кішэні многім установам культуры. Тых сродкаў, якія адпускаюцца, хапае толькі на некалькі экземпляраў.

— Толькі не падумайце, калі ласка, што я шукаю нейкія адгаворкі, — прызнаецца Валянціна Міхайлаўна. — Трэба эфектыўна працаваць пры самых складаных умовах.

Слухала я гэтую дзелавую жанчыну, маці, клапатлівую жонку — і яна ўяўлялася мне актыўнай удзельніцай другога абласнога конкурсу на лепшага бібліятэкара. Такія не могуць не перамагаць.

*Наталля ЧУЕВА,*
*намеснік дырэктара абласной бібліятэкі імя А.С.Пушкіна.*

■ Погляд ад зямлі

# ЭКАНОМІЯ НА ПАДРЫХТОЎЦЫ КАДРАЎ

## ні сёння, ні заўтра прыбыткаў дзяржаве не забяспечыць

**Пачатак новага навучальнага года — заўсёды свята. Але зараз яно мае горкі прысмак. З-за фінансавых цяжкасцей шмат праблем узнікае ў педагагічных калектываў.**

"Чым заклапочаны сёння ў старэйшай сельскагаспадарчай навучальнай установе рэспублікі — Мар"інагорскім саўгасе-тэхнікуме?" Гэтае пытанне было адрасавана намесніку дырэктара па навучальнай частцы Уладзіміру Кірылавічу Сяркову. Вось што ён сказаў:

— Аб чым бы зараз ні зайшла размова, усюды праблемы. Прычым многія з іх — амаль невырашальныя. І кіраўніцтву навучальнай установы, педагагічнаму калектыву даводзіцца працаваць у складаных умовах.

Набралі навучэнцаў на ўсе спецыяльнасці: аграномія, механізацыя, электрыфікацыя. Сёлета юнакі і дзяўчаты будуць набываць і новую спецыяльнасць — арганізатар фермерскіх і сялянскіх гаспадарак". У групе будуць займацца 30 чалавек.

Увогуле ж мы набралі 300 першакурснікаў. Конкурс на некаторыя спецыяльнасці перавышаў 2 чалавекі на месца. Палова абітурыентаў ішлі па мэтаваму набору. Падобнае заключэнне дагавораў з гаспадаркамі аб выплаце стыпендый і аб гарантыі прыёму на работу пасля заканчэння вучобы ўпершыню практыкуецца ў нас. Такіх навучэнцаў набралася 95 чалавек. Такім чынам, перавагу пры паступленні мела сельская моладзь.

105 чалавек залічаны на аснове гутаркі. Гэта тыя, хто скончыў школу на "4" і "5".

І яшчэ адна навінка гэтага навучальнага года. Упершыню набрана спецгрупа на базе 9 класаў з ліку тых, хто здаў экзамены, але не прайшоў па конкурсу. Навучэнцы самі будуць часткова кампенсаваць затраты на навучанне. Па дамоўнасці гэта можа рабіць і гаспадарка.

Па дзве з паловай мінімальныя зарплаты давядзецца выплачваць навучэнцам штомесяц. За год — 250 тысяч. У цэлым жа расходы на навучанне аднаго чалавека складаюць 720 тысяч рублёў.

Што датычыцца выпуску 1994 года, то сёлета скончылі Мар"інагорскі саўгас-тэхнікум 378 чалавек. Большасць з іх працаўладкаваны. Вяскоўцы ў асноўным паехалі дадому. Сёй-той адмовіўся ад прапанаванай работы. У асноўным гэта мінчане (іх 30 чалавек), яны атрымалі свабодныя дыпломы. Навучэнцы па спецыяльнасці "арганізацыя і тэхналогія вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі" /60 чалавек/ яшчэ здаюць дзяржаўныя экзамены. Дарэчы, гэта перадапошні выпуск па данай спецыяльнасці. Зараз набору на яе няма. Палова выпускнікоў пакуль што не маюць рабочых месц. І, відаць, пасля вучобы ім давядзецца адразу ж накіроўвацца ў цэнтр занятасці насельніцтва.

Новы навучальны год выклікае трывогу. Няма запасу паліва. Зімой ужо было холадна ў аўдыторыях, інтэрнатах, жылых дамах. Бязрадасная перспектыва і на сёлетні ацяплялыны сезон.

Калектыў педагогаў з разуменнем ставіцца да гэтых праблем. І, нягледзячы на цяжкасці, ніхто не пакідае свае рабочыя месцы, хаця некаторыя працуюць усяго на паўстаўкі.

Між тым у нас вялікая патрэба ў новым абсталяванні, тэхніцы. Напрыклад, не хапае трактароў для вучобы і работы.

Вучэбнае абсталяванне ўжо не набывалася 2 гады. Патрэбна абнаўляць камп"ютэрную, вылічальную тэхніку. У аўдыторыях, інтэрнатах прыходзяць у непрыгоднасць крэслы, сталы. Ды зараз набыць звычайны кран ці замяніць разбітую шыбу — праблема.

Не атрымліваем і вучэбную літаратуру. А інфармацыйны голад — самае страшнае ў справе падрыхтоўкі будучых спецыялістаў.

Безумоўна, зараз цяжкасці ўсюды. Аднак эканомія на падрыхтоўцы кадраў для сельскай гаспадаркі наўрад ці апраўданая.

*Запісала Аліна ГРЫШКЕВІЧ.*
*г. Мар"іна Горка.*

# ВПЕЧАТЛЕНИЯ ЗАИНТЕРЕСОВАННОГО АМЕРИКАНЦА

## О НАЧАЛЕ УЧЕБНОГО ГОДА В БЕЛОРУССКИХ ШКОЛАХ

***РОБЕРТ СВАКЕР, доктор наук, профессор Нью-Йоркского университета***

*(Специально для "Мінскай праўды".)*

Наиболее важным в своей жизни американцы считают образование детей, которое приобрело для них такую же ценность, как семья. При всем том, что система школьного образования США считается одной из самых развитых в мире, наша школа не лишена недостатков, и в последние годы она, как фактор социально-экономической стабильности общества, столкнулась с рядом трудностей, которые заставляют нас принимать экстренные меры, чтобы поднять среднее образование на должный уровень. В частности, нам предстоит изучить и почерпнуть все то лучшее, что есть в опыте работы белорусской школы. Поэтому наш визит не случаен. Он является частью программы по совместному сотрудничеству в области образования между Республикой Беларусь и Соединенными Штатами Америки. Мы бы хотели основать программу, в ходе которой могли бы поделиться опытом педагогической деятельности, совместно подготовить учебно-методические материалы, издать учебники, организовать обмен делегациями учителей.

Наши поездки в школы Минской области были организованы начальником управления образования облисполкома А.С.Новиком, а также нашими коллегами из областного института усовершенствования учителей И.И.Зайцевым и Г.И.Шатон.

В течение августа я и профессор Нью-Йоркского университета Анна Лейбович имели возможность познакомиться с работой различных учебных заведений г.Минска и Минской области — от детского сада до университета.

Бесспорно, трехнедельный визит в вашу замечательную республику не дал нам пока возможности глубоко проанализировать ваши успехи и недостатки,трудности и достижения, но многочисленные встречи с сотрудниками министерства, областного управления, профессорами, руководителями районных отделов образования, директорами школ, учителями и школьниками позволили нам получить достаточно объективное представление о положении дел в системе образования.

Очевидно, что белорусская школа переживает нелегкие времена, связанные с кризисом в экономике, и школьная реформа еще только выходит на широкую дорогу. Но во время нашей поездки по школам Минской области мы отмечали, что реформы в системе образования осуществляются в направлении создания разных типов школ, имеющих свои учебные планы, программы, системы обучения, и во многих городах и селах мы с удовлетворением обнаружили, что активно функционируют лицеи, гимназии, профильные школы. И это не просто углубленное преподавание тех или иных предметов, а расширение учебного плана за счет введения новых предметов, интегрированных курсов, усиление практической направленности обучения. Мы можем констатировать, что идет качественно новое развитие белорусской школы.

Запомнится наше участие в августовской конференции в Мядельском районе, посвященной началу учебного года. Интересной и весьма полезной для нас была информация заведующего отделом народного образования В.И.Меховича. Мы констатировали, что органы управления образованием в Мядельском районе с большим доверием относятся к педагогическим коллективам, школы все больше переходят на режим самостоятельности и самоуправления, новые педагогические задачи решаются нестандартными методами, активно внедряется педагогическое сотрудничество, что требует от учителей творческого подхода при организации учебно-воспитательного процесса.

Неизгладимые впечатления остались от посещения средней школы № 5 г.Марьина Горка. Я увидел хорошо оборудованное здание, подсобные помещения, теплицу. Директор школы Алла Васильевна Ралькевич провела нас по кабинетам химии, физики, географии, обычным классным комнатам, посетили мы спортивный зал. Из беседы с руководителем школы и членами педагогического коллектива я могу утверждать, что эта общеобразовательная школа дает отличную подготовку по иностранным языкам, истории, литературе, математике, другим академическим дисциплинам; много внимания уделяется также музыке, изобразительному искусству, спорту. С учетом потребностей сегодняшней жизни в школе введены курсы по основам экономики, компьютерного дела. С нашей точки зрения, выпускники этой школы отличаются высоким уровнем образовательной подготовки.

Запомнится наше посещение Барсуковской школы Смолевичского района, тем более что наш визит совпал с Днем знаний — 1 сентября. Директор школы Валерий Васильевич Желянин познакомил с педагогическим коллективом, показал школу. Классные комнаты радовали глаз яркими стенами, красочными обоями, большими окнами, заливающими класс солнцем. Меня поразила чистота и аккуратность в классных комнатах, большое количество наглядных пособий по разным предметам, целых девять глобусов в кабинете географии. В беседе с преподавателями я поинтересовался соотношением учеников и учителей и был приятно удивлен, что оно составляет в среднем 14 учащихся на одного преподавателя — соотношение, которого мы хотели бы достичь в наших американских школах. Директор сумел установить прекрасные взаимоотношения с учителями, они открыто нам говорили о своих трудностях, успехах в организации учебно-воспитательного процесса. Мы узнали, какими методами учителя могут эффективно поддерживать порядок в классе, и убедился в глубокой преданности учителей своей работе.

Увидели мы и хорошо одетых, вежливых, любознательных и внимательных ребят, многие из которых хорошо говорили по-английски. Похоже, они готовы старательно учиться и стать достойными созидателями своей Родины.

Я почувствовал необыкновенный прилив сил при виде улыбающихся детских лиц и порыв восторга. Особенно мне понравились праздничные белые фартуки на темном фоне школьных платьиц девочек.

У нас в Америке нет торжественных церемоний, посвященных началу нового учебного года. Но, я думаю, эту хорошую традицию нам следовало бы позаимствовать. Эта церемония дает возможность ученикам принарядиться и участвовать в торжестве, которое поднимает их дух и подготовливает к новому учебному году.

Мне понравилось, что речи на церемонии были содержательны и недлинны и обращены непосредственно к школьникам. Дети пели песни, танцевали, разыгрывали короткие представления. Доктор А.Ф.Лейбович и я обратились с приветствием к учащимся, а они, в свою очередь, подарили огромные букеты цветов, сувениры, сделанные своими руками, которые мы обязательно продемонстрируем американским школьникам. Мне особенно понравилось, когда учащийся выпускного класса поднял первоклассницу и, усадив ее себе на плечо, пронес через ряды учеников, учителей и их родителей, звоня в школьный колокольчик.

Кроме этого мы побывали в Будаговской средней школе /директор Л.И.Афанасьева/ и Задомлянской базовой школе /директор Т.С.Болтуть/. Посещение произвело на меня неизгладимое впечатление. И я уверен, что настойчивость учеников, преданный профессионализм учителей, поддерживаемый вниманием директоров и руководителей отделов образования, приведут к дальнейшим успехам в наступившем учебном году.

Естественно, газетная статья не дает возможности подробно рассказать обо всех наших встречах, но, используя такой случай, хочу поблагодарить за оказанное содействие в нашей работе заведующего отделом образования Смолевичского райисполкома В.И.Герасимчика, заместителя директора МОИУУ Т.И.Дроздович, завуча гимназии № 204 Н.А.Кунец и многих других.

В заключение хотелось бы подчеркнуть, что сегодня перед системой среднего образования стоят сложные задачи и скорых результатов вы, видимо, не ожидаете. Предстоит длительная, кропотливая работа: необходимо менять методику преподавания, подготавливать и издавать новые учебники, разрабатывать учебные программы, осуществлять переподготовку учителей и руководителей школ. Изменения, происходящие в системе образования, требуют радикальных средств. Но именно образование закладывает основы экономической и социальной стабильности общества. Был сто раз прав сенатор Э.Кеннеди, который сказал: "Экономические битвы завтрашнего дня разыгрываются в классных комнатах".

Важно отметить, что при всех сложностях в современной белорусской школе, с моей точки зрения, созданы все условия для того, чтобы каждый школьник мог получить хорошее образование. Очевидно, что экономическое, духовное развитие немыслимо без выхода всей системы школьного образования на качественно новый уровень. Безусловно, много ценного мы могли бы дать друг другу, а для этого нам необходимы дружеские контакты и полезные обмены.

